# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 13 (42). Слонім. 27 сакавіка — 2 красавіка 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


НАВІНЫ

## Начальства паднавіла свае кабінеты

**Днямі старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын і яго намеснік Войцах Угрыновіч пачалі сядзець у аднаўленых кабінетах.**

Іх апартаменты будаўнікі адрамантавалі з высокакасных матэрыялаў па сучаснай тэхналогіі. Увогуле на рамонт усіх пакояў гарвыканкама ўлады выдзелілі каля 200 мільёнаў рублёў (прыблізна 4 тысячы даляраў). Тым часам, як на дапамогу грамадзянам і сем'ям, якія маюць дзяцей, бюджэтам на 1998 год прадугледжана ўсяго 400 мільёнаў рублёў.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Даўгабуд прыдбае гаспадара?

**Падобна, што адзін са слонімскіх даўгабудаў знойдзе свайго гаспадара.**

Як стала вядома, незавершаны будынак універсама, што на Брэсцкай вуліцы , улады маюць намер перадаць слонімскаму суду.

Нядаўна наваселле справіла міжрайпракуратура, а ў бліжэйшы час магчыма ў новы будынак пераедзе і суд?

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Куды знік цукар?

**Ужо тыдзень як у крамах горада знік цукар, які цяпер стаў сапраўдным дэфіцытам.**

Пракаментаваць сітуацыю з цукрам пагадзіўся начальнік упраўлення гандлю гарвыканкама Уладзімір Сарока. Ён сказаў, што той запас цукру, які мелі крамы, быў закуплены ў аптавікоў па цэнах, вышэйшых, чым адпускныя. Пасля рэзкага скачка даляра гандляры былі вымушаны цукар зняць з рэалізацыі.

Аднак У.Сарока запэўніў, што "як толькі Гродзенскім аблвыканкамам будуць выдзелены фонды, цукар адразу з'явіцца ў продажы". Мяркуецца, што гэтае пытанне будзе вырашана ўжо на бягучым тыдні.

**Сяргей ЁРШ**

ГОРАД

## Металу ў горадзе хапае, каб зрабіць пару танкаў

**За тры месяцы гэтага года слонімцы сабралі і здалі на прыёмныя пункты мясцовага нарыхтоўчага прадпрыемства больш за 100 тон металу, з якога можна зрабіць два сучасных танка.**

Па словах дырэктара прадпрыемства Мікалая Юрчыка, найбольш актыўна здаюць метал жыхары горада. Адзін кілаграм чорнага металу каштуе 250 рублёў, а каляровага (бронза, латунь) -- 4000. За адзін кілаграм алюмінія даюць 2000 рублёў, а свінца — 700 рублёў.

Нарыхтоўчыя пункты прымаюць і макулатуру (1200 рублёў за кілаграм). А нядаўна яны пачалі прымаць бульбу, часнок, цыбулю, яйкі, капусту, а таксама мяса.

М. Юрчык сказаў, што ў бліжэйшы час плануюць адкрыць новыя нарыхтоўчыя пункты прадпрыемства ў Альбярціне і на Брэсцкай вуліцы.

**Сяргей ЁРШ**

## Расце школьнае злачынства

**У Слоніме за мінулы год зарэгістравана 79 крымінальных злачынстваў, якія ўчынілі вучні школ горада.**

Пра гэта сказаў намеснік старшыні гарвыканкама Войцах Угрыновіч на сумесным паседжанні гарвыканкама, камісіі па справах непаўналетніх і аддзела адукацыі. За 1996 год іх было зафіксавана толькі 46.

На паседжанні таксама адзначаўся значны рост адміністрацыйных праваапарушэнняў сярод падлеткаў, колькасць якіх летась дасягнула лічбы 229.

Загадчык аддзела адукацыі гарвыканкама Аркадзь Бумагін падкрэсліў, што найбольшы рост злачыннасці сярод вучняў трэцяй, пятай і сёмай школ горада. «Нас хвалюе тое, - сказаў Аркадзь Рафаэлавіч, - што сярод старшакласнікаў школ ёсць выпадкі ўжывання алкагольных напіткаў».

На сумесным паседжанні было выпрацавана распрацаваць рабочы план мерапрыемстваў супраць росту школьнага злачынства.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Сустрэча ў мікрараёне

**На мінулам тыдні ў школе №8 адбылася сустрэча інфармацыйнай групы гарвыканкама з жыхарамі мікрараёна, што на Брэсцкай вуліцы.**

На сустрэчы прысутнічала не шмат людзей, таму мусіць і не ўсе пытанні былі ўзняты.

Мэр горада Лакцюшын, распавядаючы пра эканамічны стан горада, адзначыў, што за апошні час паступленні падаткаў скараціліся на 8 млрд. рублёў. Па ягонаму меркаванню недахоп бюджэтных грошай адбіваецца на жыцці гараджан.

Але жыхары мікрараёна падчас размовы засяродзілі ўвагу на асвятленні вуліц, дрэнных дарогах і тратуарах. Асобным патыннем стаяла якасць вады. Высветлілася, што прычынай таму — састарэлыя ачышчальныя пабудовы водаканала. З-за гэтага і наглядаецца павышэнае ўтрымання жалеза ў вадзе. Па словах мэра, на сённяшні дзень сітуацыя з вадой па ўсёй рэспубліцы не бліскучая, але існуе праграма "Чыстая вада", якая павінна змяніць сітуацыю.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ**

## Канферэнцыя палякаў

**29 сакавіка, у доме афіцэраў пройдзе справаздачна-выбарчая канферэнцыя раённага аддзялення саюза палякаў.**

Сябры саюза падвядуць вынікі работы сваёй арганізацыі за два папярэднія гады, а таксама выбяруць праўленне і яго старшыню.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ЗДАРЭННІ

## Пяцёра загінулі

**Жудасная трагедыя здарылася ў мінулую пятніцу на Падлеснай вуліцы. Дзве іншамаркі, рухаючыся на вялікай хуткасці насустрач адна адной, сутыкнуліся. У выніку загінулі пяць чалавек.**

З чатырох чалавек, якія ехалі ў аўтамабілі з Гродна ў Дзераўную, жывым застаўся толькі паўтарагадовы хлопчык. Цяпер ён знаходзіцца ў раённай бальніцы.

У рэанімацыі знаходзіцца і мужчына, які ехаў у другой іншамарцы. Двое яго сябрукоў загінулі на месцы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Фортка падвяла

Невядомы злодзей праз фортку залез у дом да жыхара з вуліцы Кароль і ўкраў відэамагнітафон "Міцубісі".

**Валянцін ЧУРЫЛА**

АФІЦЫЙНА

## Не чапайце ракаў!

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сваім загадам забараніла лоўлю ракаў да 15 ліпеня 1998 года.**

Гэтае рашэнне прынята ў мэтах захавання колькасці даўгаполага рака і аховы яго ў перыяд размнажэння.

**Наталля ФУРСАВА**

## Нас вывучаюць

**Газета "Наша Ніва" у сваім апошнім нумары пачала серыю публікацый па выніках даследчай экспедыцыі на Слонімшчыну.**

У сярэдзіне лютага журналісты і навукоўцы з Мінска і Вільнюса наведалі вёску Якімавічы, дзе падчас нямецкай акупацыі лясныімі бандытамі было забіта некалькі дзесяткаў мясцовых жыхароў. Пра гэтую трагедыю пісала «ГС» у 1997 годзе. І вось цяпер журналісты «Нашай Нівы» сустрэліся з жывымі сведкамі тых падзей, запісалі іх успаміны.

**Сяргей ЁРШ**

## Чытайце ў нумары:



## У Слоніме будзе помнік Льву Сапегу

**Гарвыканкам прыняў рашэнне падтрымаць ініцыятыву групы гараджан аб пабудове і ўстаноўцы ў Слоніме помніка канцлеру Вялікага княства Літоўскага Льву Сапегу (1557-1633).**

Нагадаем, што Л.Сапега быў слонімскім старостай з 1586 года. Ён спрыяў уздыму культуры і прамысловасці Слоніма, яго палітычнаму значэнню. Дзякуючы намаганням Льва Сапегі, у 1591 годзе наш горад атрымаў герб: на блакітным фоне залаты леў стаіць на задніх лапах і трымае сярэбраную стралу з падвойным крыжам.

Па словах старшыні ініцыятыўнай групы Таццяны Кажанковай, цяпер ствараецца аргкамітэт па рэалізацыі праекта з прыцягненнем вядомых у горадзе і рэспубліцы людзей, дзеячоў культуры і бізнесменаў.

Фінансаваць праект пабудовы помніка будзе рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Сапегі. Таксама будуць прымацца фінансавыя ахвяраванні з боку грамадзян і арганізацый, якія хочуць падтрымаць гэтую ідэю.

**Сяргей ЁРШ**

***P.S.*** Больш падрабязную інфармацыю аб праекце пабудовы помніка Л.Сапегу мы апублікуем у наступным нумары.

ПЕРШАКРАСАВІЦКАЯ СЕНСАЦЫЯ

## Даляры плылі па Шчары

**Незвычайны выпадак нядаўна здарыўся ў Слоніме.**

25 сакавіка, у сераду, адзін жыхар нашага горада вылавіў у Шчары каля баранавіцкага маста некалькі стодаляравых купюр. У той жа дзень пашанцавала яшчэ некалькім слонімцам, якія выцягнулі з вады ў раёне парку добры стос прамокшых зялёных паперак.

Адкуль у Шчары з'явіліся даляры? Магчыма, што нехта згубіў іх і паперкі ветрам занясло ў рэчку. Праўда, пакуль невядома колькі амерыканскіх даляраў плыло, а можа яшчэ і плавае па Шчары.

**Алег ТАЧОНЫ**

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

*Цены (в тыс. руб.)*

| | 11.03 1998 | 25.03 1998 | | 11.03 1998 | 25.03 1998 |
|---|---|---|---|---|---|
| апельсины | 45 | 45 | свекла | 6 | 6 |
| бананы | 50 | 50 | сметана | 28 | 30-32 |
| яблоки | 26 | 23-26 | киви (1шт.) | 12 | 12 |
| капуста | 14 | 14 | лимоны | 60 | 55-60 |
| морковь | 6-8 | 7-8 | говядина | 45-110 | 55-120 |
| лук | 41 | 40-42 | мандарины | 65 | 65-70 |
| чеснок | 60 | 60-65 | ячмень (1 кг) | 7.5-8 | 7-7.5 |
| картофель | 6.5-7 | 6.5-7 | поросята (1 шт.) | - | -1.25млн. |
| молоко (1л.) | 7 | 7 | куры (1 шт.) | 120 | 130 |
| творог | 18 | 23 | телятина | - | 60-130 |
| масло сл. | 80 | 86 | пшеница (1 кг) | - | 7.5-8 |
| яйца (1дес.) | 27 | 26-27 | кролики:молодые | - | 80 |
| свинина | 55-135 | 55-130 | взрослые | - | 130-150 |
| сало солёное | 70-85 | 85-90 | сухофрукты | - | 40 |
| мед | 250 | 210-220 | петухи (1 шт.) | - | 100-110 |

# Яшчэ раз пра падаткі

Нядаўна выйшаў у свет новы Дэкрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб мерах па ўрэгуляванню пытанняў, звязаных з вылічэннем падаходнага падатку з фізічных асоб, зыходзячы з сукупнага гадавога даходу».

Наш карэспандэнт звярнуўся да намесніка начальніка падаткавай інспекцыі па г. Слоніму і Слонімскаму раёну Вікенція Семенчука, каб ён пракаменціраваў гэты дакумент. Па словах Вікенція Іванавіча, згодна гэтага дакумента пакуль «знік» такі тэрмін, як «сукупны гадавы даход». Шкалу падаходнага падатку па сукупнаму гадавому даходу Савет Міністраў павінен вызначыць праз тры месяцы. Таму прынцыпы падаткаабкладання грамадзян захоўваюцца ранейшыя. Семенчук сказаў, што ў Дэкрэце адзначана, што не дапускаецца пераразлік падаходнага падатку, вызначанага ў цвёрдых сумах. Гэта ў першую чаргу датычыць прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы.

У Дэкрэце ўказана, што тэрмін падачы дэкларацый аб даходах за 1997 год прадоўжаны да 15 красавіка 1998.

***-Каго гэта ў першую чаргу датычыць?***

-Гэта палажэнне Закона датычыць тых грамадзян, якія атрымлівалі ў мінулым годзе даходы ад работ па дагаворах грамадзянска-прававога характару (калі такія работы выконваліся больш двух месяцаў на працягу года) або атрымлівалі аўтарскія ўзнагароджанні менавіта па гэтых відах даходаў. Прычым, калі сумы аўтарскіх узнагароджанняў выплочваюцца толькі ад аднаго суб'екта гаспадарання, ці калі сума гэтых даходаў не перавышае 19 млн. 400 тыс. рублёў - дэкларацыі не падаюцца.

А вось калі такія ўзнагароджанні грамадзянін атрымлівае ў двух і больш месцах, альбо калі іх сума перавышае 19 млн. 400 тыс. рублёў, патрэбна падаваць дэкларацыю.

Дэкларуюцца таксама даходы, прыраўнаваныя да даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці (гэта даходы ад здачы ў наём кватэр, маёмасці і іншае).

Прадстаўляць дэкларацыю аб даходах павінны і грамадзяне, што з'яўляюцца прадпрымальнікамі без утварэння юрыдычнай асобы.

Па вышэйпералічаных відах даходаў падаюцца гадавыя дэкларацыі.

А вось грамадзяне, якія атрымліваюць даходы, працуючы за мяжой, або атрымалі іх з-за мяжы, павінны прадставіць дэкларацыю не пазней 15-ці дзён пасля прыбыцця з-за мяжы, або атрымання такога даходу.

***-Ці павінен прадстаўляць дэкларацыю чалавек, які працаваў на асноўным месцы працы і падзарабляў на іншых прадпрыемствах, ці ўстановах па сумяшчальніцтву?***

-Не павінен. У Законе «Аб падаходным падатку з грамадзян» сказана, што даходы за работу па сумяшчальніцтву, а таксама прэміі, узнагароджанні, выплачаныя ў іншых месцах, не дэкларуюцца.

***-Многія прадпрымальнікі апынуліся ў разгубленасці і не ўнеслі своечасова цвёрдыя сумы падаходнага падатку за люты. Ці будуць да такіх асоб прымяняцца штрафныя санкцыі?***

-Гэтыя асобы могуць падаць дэкларацыю ў падатковую інспекцыю, і штрафныя санкцыі да іх прымяняцца не будуць.

***-Вікенцій Іванавіч, як вы лічыце, Дэкрэт канчаткова ўнёс яснасць па ўсіх пытаннях, якія звязаныя з падаткаабкладаннем, ці могуць быць некаторыя змяненні?***

-Мяркуючы па тэксту Дэкрэта, дзяржава ўсё ж намерана налічваць падаходны падатак на аснове сукупнага гадавога даходу. Аднак, калі гэта адбудзецца - невядома.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

## НАВІНЫ

# Пад новы ўраджай

**Па звестках упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, гаспадаркі раёна нарыхтавалі 567 тысяч тон арганічных угнаенняў, што складае 86% ад плана, з іх 82 тысячы тон ужо ўнесены ў глебу.**

Найбольш назапасілі торфакампостаў калгасы імя Суворава (106%), імя Леніна (100%), "Уперад" (99%), "Кастрычнік" (99%). Найлепшыя паказчыкі па вывазцы арганікі ў калгасе імя Дзяржынскага, дзе амаль усе назапашаныя кампосты вывезлі на палеткі.

Гаспадаркі раёна назапасілі 60 тысяч мінеральных тукаў, што на 2 тысячы тон больш мінулагодняга.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# В Минск на чемпинат

**2-3 апреля в Минске пройдет второй чемпионат Беларуси по парикмахерскому искусству.**

Состязание лучших парикмахеров страны будет проводиться в следующих номинациях: "Повседневная прическа", "Вечерняя прическа", "Престижные невесты" и др. Победители конкурса будут представлять Беларусь на чемпионате мира по парикмахерскому искусству, который пройдет в сентябре этого года в столице Южной Кореи – Сеуле.

На чемпионате Слоним будут представлять парикмахеры Людмила Борщевская (женская прическа) и Светлана Яшина (мужская прическа).

**Наталья ФУРСОВА**

# Ваучер для иностранных туристов

**С 1 апреля в Беларуси вводится единый ваучер на прием иностранных туристов.**

Такая мера предпринята с целью улучшения организации и контроля туристско-экскурсионной деятельности белорусских субъектов хозяйствования.

Бланк единого ваучера, как сообщает пресс-служба МИД, состоит из оригинала, который остается у клиента до завершения срока действия договора, и трех копий, служащих в качестве отчетного документа, в том числе по факту выдачи белорусской туристской визы.

**БелаПАН**

# Сутачнікі

Сутачнікі — гэта асобы, якія адбываюць пакаранне за дробнае хуліганства. А хуліганства ў нашым горадзе — даволі распаўсюджаная з'ява. Штодзённа гарадскі суд разглядае да дзесяці і больш спраў у адносінах да асоб, якія ўчынілі падобныя правапарушэнні. Ёсць сярод гэтага кантынгенту «героі», якія на працягу года трапляюць у суд неаднаразова. Іх суддзі ведаюць у твар, нават памятаюць, што яны нарабілі ў мінулы раз.

Праўда, ёсць і людзі, якія трапляюць сюды выпадкова. Іх, як правіла, не садзяць на суткі, а проста штрафуюць. Але такіх, па словах суддзі Тамары Хамінец, адзінкі. Асноўны ж кантынгент сутачнікаў - сямейныя скандалісты, дэбашыры, хуліганы, якія, як правіла, нідзе не працуюць. З іх спаганяць штраф немэтазгодна, бо за іх плацяць, звычайна, родныя і блізкія.

Днямі я быў сведкам, калі Тамара Хамінец разглядала справы чарговай групы правапарушальнікаў. Ні адзін з іх не лічыў сябе вінаватым.

Першым у кабінет прывялі 63-гадовага пенсіянера Міхася Курыловіча , жыхара з вуліцы Анішчыка. З пратакола высветлілася, што 15 сакавіка гэты чалавек у нецвярозым стане дома ўчыніў скандал, і жонцы нічога не заставалася, як выклікаць міліцыю.

На пытанне суддзі, што ён не падзяліў з жонкай, Курыловіч адказаў: «Я ёй каторы год прапаную — давай жыць па-харошаму, а яна не хоча».

У яго запыталі, чаму ён гэта высвятляе ў нецвярозым стане? Той адказаў: «Трэба было суседцы мяне пачаставаць за тое, што паставіў ёй замок у дзверы...».

Курыловіча аштрафавалі на 250 тысяч рублёў.

Качагар з вуліцы Энтузіястаў Міхась Клыбік, на до[illegible]рым падпітку, дома некал[illegible] гадзін брыдкасловіў, а потым выгнаў з хаты жонку і дачку.

Клыбік прызнаў сябе цалкам вінаватым. Яго таксама аштрафавалі на 250 тысяч рублёў.

Хлопец з Загрыцькава Генадзь Арцюх вечарам 15 сакавіка ў інтэрнаце 129-га вучылішча ў прысутнасці дзяўчат пачаў высвятляць адносіны са сваім сябруком. Вынік - начлег у міліцыі і штраф у суме 250 тысяч.

Чарговы хуліган Алег Кузьменка з Шасэйнай вуліцы зайшоў да суддзі апошні. У кватэры сваіх бацькоў-пенсіянераў падняў гучны вэрхал. Да гэтага ён быў арыштава[illegible]ны на 7 сутак за дробн[illegible] хуліганства, аднак належных вывадаў для сябе не зрабіў. Таму суддзя і на гэты раз пакарала яго на 7 сутак арышту.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ШКОЛЬНЫЯ НАВІНЫ

# На границу...

Днями юные артисты СШ №3 выступили перед пограничниками Свислочского района.

Школьники подготовили концерт, посвященный 80-летию погранвойск Беларуси. В свою очередь пограничники продемонстрировали перед детьми навыки в задержании нарушителей. Учащиеся также посетили выставку «Современного вооружения пограничника».

**Маша СИНЯК**

# Рисунки наших ребят лучше

В Гродно прошел областной конкурс на лучший детский рисунок на противопожарную тематику. Первую премию за цикл рисунков присудили слонимчанам Ивану Маркову и Саше Ефимову (СШ №8, 5 класс).

Премиями также были поощрены еще семь школьников города.

**Анатолий АЛЕШКО**

# Юбілей музея

***На здымку: падчас экскурсіі ў музеі***

Вось ужо 10 гадоў як у дзіцячым садку №11 дзейнічае «Музей-майстэрня народнай творчасці». Гэты музей у дашкольнай установе быў створаны адным з першых у рэспубліцы. Таму не дзіўна, што сюды за вопытам прыязджалі калегі з Украіны і іншых гарадоў Беларусі. Музей стаў першай ластаўкай у Слоніме па выхаванню нацыянальнай свядомасці сярод дзяцей. Цікавыя экспанаты, выробленыя рукамі народных майстроў, дапамагаюць дзецям глыбей пазнаць гісторыю роднага краю, нацыянальныя традыцыі і культуру. Багата прадстаўлена ў экспазіцыі музея жаночае адзенне XIX — пач. XX ст. з розных рэгіёнаў Беларусі, ручнікі, дываны, настольніцы, ганчарныя вырабы, прадметы быту і працы.

**Ірына АНТОНАВА**



Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.
E-mail: gs@irex.minsk.by

Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 26 сакавіка 1998 г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.000 экз.
Заказ № 927

# Пярцоўка
# СТАРОНКА САТЫРЫ І ГУМАРУ

## Рамонт кватэры

Ясен АНТАЎ

Запрасіў я маляра — пафарбаваць кватэру. Пакуль ён фарбаваў, запэцкаў паркет, таму давялося выклікаць паркетчыка. Той узяўся за паркет і між справай умудрыўся парваць нейкі провад. Я вымушаны быў шукаць электрыка.

Электрык, каб яму жыць сто гадоў, папраўіў усё ўмомант, але раскалупаў сцяну. Я выклікаў муляра.

Муляр вельмі кваліфікавана пераклаў сцяну, але ўпусціў цэглу і раскалоў умывальнік. Я пайшоў шукаць сантэхніка.

Слесар-сантэхнік, пакуль мяняў умывальнік, паразбіваў усю кафлю, таму тэрмінова спатрэбіўся абліцоўшчык. Той, у сваю чаргу, пабіў люстэрка, і я выклікаў майстра па люстэрках. Майстар, калі вешаў новае люстэрка, парваў праводку, таму я зноў пайшоў па электрыка. Каб узнавіць усю праводку, ён некуды зашпандорыў канал водаправоднай трубы. Тады я пачаў шукаць водаправодчыка. Пасля яго давялося клікаць тынкоўшчыка: той пазамазваў усе дзіркі, і цяпер засталося схадзіць па маляра, каб зноў усё пафарбаваць.

Маляр з'явіўся. Пафарбаваў пакоі. На гэтым усё скончылася, справа была толькі за паркетчыкам, бо паркет меў выгляд — горш няма куды. Паркетчык адразу ж узяўся за справу, але чамусьці ўпесь час курыў цыгарэты і акуркі кідаў на падлогу. Загарэлася стружка, і маё жытло згарэла.

Зараз я жыву ў гасцініцы і ўрэшце адчуваю сябе шчаслівым. Адно толькі непакоіць: калі здарыўся пажар, я паспрабаваў выратаваць прыёмнік, але ён трохі пашкоджаны, і трэба было выклікаць радыётэхніка. А грошай у мяне няма. Аднак, можа, гэта і добра, што не прыйдзе радыётэхнік, бо заплаціць за спаленую гасцініцу я, канечне ж, ніколі не змагу.

Пераклаў з балгарскай мовы Уладзімір ЦВЯТКОЎ

## Навука

Вучыць жонку сусед
І не дзень і не два.
Вучыць жонку сусед,
Аж баліць галава.
Быў ён бедны калісь,
Быў спакойны, харошы.
А цяпер ззавідна
Усё пра «грошы і грошы!!!»
Ночка месяц-ражок
Запіхнула за хмары.
Рэжа вуха праз сцены:
«Даляры, даляры!!!»
Не змігрнуць, не заснуць
Мне ад тое навукі,
Аж пад коўдру маю
Пруць нахабныя гукі.
Ды супыніцца час...
Ці то сны, ці то мары.
Будуць сніцца і мне
Ў тоўстай сумцы даляры.

Ірына ВОЙТКА

## Куртка

Сымон купіў сабе куртку. Дома жонка спытала, колькі заплаціў.

—Два мільёны, — жартам адказаў Сымон.

—Ты ведаеш, яна табе крыху малая, — заўважыла жонка.

—Ды не, гэта я пажартаваў, — засмяяўся Сымон. — Аддаў усяго трыста тысяч.

—А ну-тка, павярніся да святла! — загадала жонка. — Яна на табе добра сядзіць і някепска глядзіцца...

Міхась СЛІВА

## Цыдулькі на слупах

●●●

Сімпатычная айчынная кошка пазнаёміцца з катом-мільярдэрам з Заходняй Еўропы. Катоў з краін былой Усходняй Еўропы прашу не турбаваць.

●●●

Хоць бедны, але малады мужчына ў роскіце сіл шукае, хоць і старую, але багатую жанчыну, якой з радасцю дапамажа пражыць яе апошні месяц жыцця.

●●●

Антыкварная, аднак яшчэ ў добрым стане настольная лямпа шукае 25-ватаных электрычных лямпачак для сумеснага яркага жыцця.

Уладзімір ЦВЯТКОЎ

ХОЗЯЙКАМ НА ЗАМЕТКУ

## Зельвенский торт

Хотите верьте, друзья, хотите нет, но скажу, что недавно в соседней со Слонимом Зельве начала действовать кулинарная радиостанция на УКВ.

Мы вначале не поверили, но сосед одного из наших журналистов, Вася, рассказал, что на днях ему жена сказала:

—Вася, в 11 часов из Зельвы будут передавать рецепт зельвенского торта. Запиши, пожалуйста.

Вася быстро позавтракал, опрокинул пару рюмок вина, настроил приемник на Зельву. Похоже, что он ошибся и настроил приемник на радиоволну между Зельвой и Минском. В это время Минск передавал утреннюю гимнастику, а Зельва — рецепт торта. После чего Вася взял бумагу и едва успевал записывать:

"Поднять руки вверх. Засыпать один стакан муки на плечи. Поднять ноги вверх, засыпать между ними сахар и хорошо растереть с половиной стакана молока. Поставить ноги на ширину плеч и наклониться вперед, помять яйца. Повторить это 5-6 раз, после чего лечь на пол и бить яйца до цех пор, пока не появиться пена. Дыхание при этом должно быть равномерным. После этого встать на место и проверить, не осталось ли скорлупы. После чего несколько раз выдохнуть и протереть мокрые места полотенцем. Затем можно одеваться и подавать торт на стол".

Михаил ШАГ



— Колькі на гэтай «тачцы» выцягваеш?

— Чатыры-пяць дзячат на тыдзень.



— Заходзь, не саромейся! Зараз я цябе з маёю жонкаю пазнаёмлю...

## Беларусы пра саміх сябе

### Дапамога

Дачка настаўніка фізікі паведамляе бацьку:

—Тата, да нас прыйшоў жабрак. Ён просіць што-небудзь.

—Няхай крыху пачакае. Я яму зараз дам некалькі задач па фізіцы.

### Разумныя

—Ну й разумны ў мяне кот! — расказвае беларус свайму знаёмаму. — Тры разы ў лес яго вазіў, пакідаў там, а ён усё дамоў вяртаецца: сядзе на парозе і мяўкае.

—І цешча ў мяне такая ж! — цяжка ўздыхае знаёмы.

### Прывычка

Сядзяць два ваенныя адстаўнікі: адстаўнік-капітан і адстаўнік-маёр. Адстаўнік-капітан кажа:

—Сёння цэны зноў паднімуцца.

—Не, не паднімуцца, — пярэчыць яму адстаўнік-маёр.

Прыбягае суседка і паведамляе:

—Мужыкі, сёння цэны зноў падняліся!

Адстаўнік-маёр звяртаецца да адстаўніка-капітана:

—А ты адгадаў!

—Служу Савецкаму Саюзу!

### Сенсацыя

Адзін гандляр ніяк не мог распрадаць вялікую партыю парыкоў. У роспачы ён напісаў каля сябе плакат: "Сенсацыя! У нашым горадзе з'явілася старажытная мумія, якая нападае на жанчын у парыках". Праз хвіліну яго абступіў узбуджаны натоўп жанчын з кашалькамі ў руках.

### Задаволіліся

У адным калгасе ўзбунтаваліся калгаснікі. Дзень і ноч енчаць, скардзяцца, на сваё жыццё наракаюць:

—Нам кепска, нам цяжка, бо намі беларус-няўмека кіруе, дыхаць не дае! Мы не хочам, каб намі кіраваў няўмека-беларус. Няхай чорт намі пакіруе. Пачуў д'ябал, прыбёг ім чорта.

—Так і так, —кажа. — Вось чорт. З гэтага дня ён пачне ў вас кіраваць.

Калгаснікі не вераць:

—Ты падманваеш! Няхай ён свае рожкі нам пакажа.

Чорт скінуў шапку і рожкі паказаў.

Заўсміхаліся калгаснікі:

—Ён сапраўдны чорт. Няхай кіруе намі.

Праз паўгода прыходзіць д'ябал у той калгас і цікавіцца:

—Чым займаецеся, мужычкі?

—Смалу ў пекла на тачках возім.

—Мабыць, цяжка вам прыходзіцца, — паспачуваў д'ябал.

—Ну, не сказаць, каб зусім цяжка. Калі мы выходзім з пекла на гэты свет, то ён нам раем здаецца.

Запісаў Аляксей ЯКІМОВІЧ

## Восемь слонимских анекдотов

☺☺☹

—Что такое старость?

—Это когда половина мочи идет на анализ.

☺☺☹

*Парень приглашает девушку на танец:*

*—Девушка, вас можно?*

*—Можно, только сначала потанцуем!*

☺☺☹

—Чем отличается женщина от такси?

—Женщина с огоньком никогда не бывает свободной.

☺☺☹

—Почему клоп плоский?

—Чтобы на нем было удобнее спать.

☺☺☹

*Идет пьяный котенок, навстречу ему корова:*

*—Котенок, ты такой еще маленький, а уже пьяный, как тебе не стыдно?*

*—А ты такая большая, а без лифчика!*

☺☺☹

Мама спрашивает у сына:

—Кто съел грушу?

Сын, испуганно:

—Не знаю.

—А еще хочешь?

—Хочу.

☺☺☹

*Новичок на курсах шоферов:*

*—Господи, сколько разных правил. Жизни не хватит, чтобы их нарушить.*

☺☺☹

Иван рассказывает жене, что ему сильно повезло: за полцены купил пару колес для автомобиля.

—Чему ты радуешься, ведь у тебя нет машины, — заметила жена.

—Слушай, — разозлился муж, — я ведь не комментирую, когда ты покупаешь бюстгальтер?

ВАКОЛ ФІЗКУЛЬТУРЫ

## Афарызмы

■ Сваё спартыўнае будучае ён уяўляў сабе так: прыйшоў, убачыў, атрымаў.

■ Ён спецыялізаваўся ў бегу на кароткія дыстанцыі: перабягаў з аднаго спартыўнага таварыства ў другое. І паспяхова.

■ Асабліва славіўся ён фінішным рыўком: заўсёды паспяваў першым, калі вызвалялася цёплае месца.

■ Казалі, што ён калісьці займаўся скачкамі: вельмі ж удала скакаў перад начальствам. І за спіной ужо шапталіся: – Гэты далёка скокне.

■ Ён рэгулярна займаўся спортам: насіў на руках... сваіх супрацоўніц.

■ Пра яго не раз і не два казалі: "Фігурыст! Гэтулькі выпіў, а на нагах трымаецца".

■ І ў сталым узросце займаюцца спортам: муж сеў на белага каня і на гэтым кані пад радасныя воклічы жонкі саскочыў з пятага паверха.

■ Футбалісты да таго перахвалялваліся, што не маглі стаяць на нагах.

■ Трэнер, хвалячыся, расказваў пра сваіх выхаванцаў: "Мае хлопцы – ленінцы. Ленін сядзеў у турме – і яны там сядзяць".

■ "Паскачаш ты ў мяне!" – падумаў пра сябе спартсмен, ускочыўшы на батут.

■ У канцы вечарынкі сябры зноў павіншавалі яго з перамогай: два разы падкінулі і адзін раз злавілі.

■ Ён, як абяцаў, устанавіў рэкорд: заблудзіўся ў трох соснах.

Аляксей ЯКІМОВІЧ




Старонку падрыхтаваў Сяргей ЧЫГРЫН

# Медленно и причудливо идет реформирование сельского хозяйства

Известно, что опорой агросектора Беларуси остается колхоз, живущий по "Закону о кооперации" советских времен.

Как живут сегодня белорусские колхозы? В 1997 году 280 колхозов и совхозов получили урожайность зерновых и зернобобовых ниже 15 центнеров с гектара. В 23 районах республики надои молока от одной коровы составляют менее 2000 килограммов. 226 хозяйств такого рода остаются убыточными. Им не выкарабкаться из этого кризиса, несмотря на то, что государство оплачивает из бюджета 80% стоимости минеральных удобрений, а половина горючего обходится им бесплатно. Правда, совершенно разорившиеся хозяйства все же были признаны банкротами. В качестве "агроцехов" их "присоединили" — кого к птицефабрике, кого к заводу, кого — к мелиоративному или строительному предприятию.




Депутат Палаты представителей Национального собрания, Федор Трифонов, который возглавляет комиссию по аграрным вопросам, во время открытой дискуссии "Проблемы реформирования села" на "круглом столе" в Минске отметил, что в целом долги аграрного комплекса столь велики, что все наличное стадо крупного рогатого скота, по сути, находится в залоге, но если его продать, то можно погасить задолженность. По мнению Трифонова, не отношения собственности определяют прогресс отрасли. Он считает, что делить на паи, акционировать, приватизировать на селе уже нечего: реформа "перезрела". Что же касается расширения "законодательного коридора" для перехода к частной собственности, то два законопроекта примерно на эту тему (об адаптации села к рыночным условиям и о государственном регулировании сельского хозяйства), по словам чиновника, "блуждают где-то в Администрации президента или в Совете Министров и до Палаты представителей еще не дошли".

В то же время Владимир Гусаков, вице-президент Академии аграрных наук, отметил, что "тот, кто владеет землей, тот распоряжается и продукцией, которую она дает. У нас же крестьянин так и не стал хозяином". Он также говорил об альтернативе колхозам — частно-долевых и коллективно-долевых хозяйствах, открытых и закрытых акционерных обществах, фермерских хозяйствах и трех формах хозрасчета. Но при этом признавал, что примерно в 1 тысяче хозяйств попытки на практике применить деление колхозной собственности на личные паи закончились "лишь сменой вывески", и это "только дискредитирует реформу".

Владимир Гусаков сделал немало и иных печальных признаний. О том, скажем, что на начало нынешнего года уже 60% основных фондов агропромышленного комплекса изношены.

Наверное, в связи с этим на 1998 год правительство республики запланировало закупить для села 1 тысячу зерноуборочных комбайнов: 400 — за счет республиканского бюджета, 400 — за счет областных бюджетов, по 2-3 — каждым районным исполкомом за счет местных источников. Выходит, что если крестьянам что-то надо — то держава сама даст! А земледелец остается в положении не хозяина, а неразумного дитяти.

В то же время фермерам выделяют в пользование не хорошую пахотную землю, а неудобицы. Он имеет право взять в обработку только 100 гектаров, а 200 никто ему не даст. Дать землю в аренду или не дать, решают руководители колхоза и сельского исполнительного комитета. Если человек все же взялся хозяйствовать на арендованных угодьях, его благополучно добивает кредитная и налоговая политика, инфляция и прочие, уже как бы рыночные, механизмы удушения. В Минской области на начало 1997 года было 682 фермерских хозяйства, на начало 1998 года осталось 543. Они вымирают отчасти из-за экономических условий, а отчасти — из-за того, что энтузиасты сами не смогли, "не потянули".

**Людмила МАСЛЮКОВА, Минск**

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

**Выдавецтва "Юнацтва" у серыі "Бібліятэка прыгод і фантастыкі" выпусціла зборнік аповесцей слонімскага пісьменніка Аляксея Якімовіча "Пастка для пярэварацня". Адзін з раздзелаў кнігі расказвае аб тым, якім быў наш горад раней. Прапануем чытачам разам з героямі аповесці адправіцца ў Слонім XIV стагоддзя.**

# Слонім

Колы заскакалі па тонкіх бярвеннях, па плахах, якімі слонімцы вымасцілі вуліцу. Паабапал вуліцы стаяць хаты, рубленыя з дрэва "ў абло". Страхі саламяныя, вокны маленькія. На вялікіх падворках, за хатамі — свірны, клуні, пуні. Высока ўгору, нібы драўляныя рукі, цягнуцца асверы студняў. Каля кожнай хаты — дагледжаны агарод.

—Страхі, як і ў нас, у вёсцы, саламяныя! — здзівіўся Мацей.

—А вунь драўляныя! — усклікнула Алеся.

—Гэта цясовы дах, — сказаў Ясь і пачаў тлумачыць:

—У хатах пад цясовымі дахамі жывуць багатыры-гандляры...

—Ясь, дзе князь жыве? — пацікавілася Алеся.

—Хутка ўбачыце.

—А як зваць князя?

—Манівід.

Янка глядзеў ва ўсе вочы. Па вуліцы адзін за адным цягнуліся вазы, спяшаліся коннікі. За вуліцай, за хатамі, цякла, выгіналася Шчара. Янка заўважыў на беразе перавернутыя, чорныя ад смалы чаўны, рыбацкія сеткі, расцягнутыя на шастах, убітых у зямлю. А вунь нейкі чалавек у вадзе стаіць, да каленяў падкасаўся, штосьці палошча.

—Гэта гарбар. Ён вырабляе скуры, а з вырабленых скур шыюць боты, чаравікі. Гарбар скуры можа так вырабіць, што белымі-белымі становяцца. Цяпер гарбар у рацэ вымочвае сырыя, яшчэ не вырабленыя скуры. Ад такой работы горб можа вырасці, — нявесела сказаў Ясь.

Чым болей Янка глядзеў, углядаўся, тым болей разумеў. І нешта цёплае нараджалася ў душы. Любоў? Замілаванасць? Не. Ён, што матулю, любіў сваю вёску. Дык што ж нараджалася ў душы? Відаць, павага. Ён паважаў горад так, як паважаюць старэйшага.

—Тую будыніну бачыце? — тыкнуў рукой Ясь, паказаўшы на высокі будынак, які стаяў на беразе Шчары.

— Гэта вясняк. Так называецца млын, які працуе толькі вясной, калі прыбывае вада.

Абагнаўшы воз, праскакалі некалькі вояў. Гарачыя коні, лебедзі, выгнулі шыі. Коннікі ў сёдлах сядзяць, бы ўліты...

*Што было далей вы зможаце прачытаць у кнізе Аляксея Якімовіча "Пастка для пярэварацня", якая прадаецца ў магазінах горада. Цана 24 тысячы 400 рублёў.*

**Максім ХАРЫТОНЧЫК**

## А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК...

# Каштоўная парада

У клубе вёскі Мілявічы бурна праходзіў справаздачна-выбарчы сход калгаса "Маяк камунізму". Сяляне выбіралі новага старшыню праўлення гаспадаркі. Ішлі гарачыя спрэчкі. Адны вяскоўцы гарой сталі за Міхася Хільмановіча, якога прапаноўвалі пакінуць на другі тэрмін, другія яго знішчальна крытыкавалі.

Дэбаты доўжыліся ўжо чацвёртую гадзіну, а сход ніяк не мог прыйсці да высновы: пакідаць на пасадзе старога старшыню, ці прагаласаваць за новую кандыдатуру Івана Валковіча, які разам з раённым начальствам сядзеў у прэзідыуме сходу і моўчкі, панурыўшы галаву, нешта пісаў.

Урэшце рэшт, у агульным настроі прысутных адчулася перавага сімпатыяў да старога старшыні Хільмановіча. Справа ўжо дайшла была да галасавання. Але не паспеў вядучы сходу ўнесці гэтую прапанову, як з апошняга раду падняў руку і папытаў слова 65-гадовы Мікіта Рубель.

Шчыра кажучы, вяскоўцы чакалі яго выступу, бо ведалі, што ён за словам у кішэнь ніколі не лезе. Мікіта Рубель сваімі прамовамі мог змяніць вынікі сходу ў адваротны бок.

Вось і зараз, кашлянуўшы ў кулак, Рубель няспешна пачаў выкладваць свае думкі наконт работы старшыні Хільмановіча:

—Таварышы! Што гэта робіцца ў нашым родным калгасе. Учора за вёскай аралі поле. Я наўмысна замерыў глыбіню ворыва. Дык што вы думаеце, на асобных участках глыбіня баразны не дасягае нават пятнаццаці сантыметраў. У сувязі з гэтым я знайшоў старшыню Хільмановіча і паведаміў яму пра бракаробаў. Дык ён мне адказаў: калі ты такі разумны, то сядзь сам за трактар і пакажы, як трэба араць. Вось, таварышы калгаснікі, якія адносіны старшыні да стану спраў гаспадаркі. Ці не таму ураджайнасць у нашым калгасе ніжэйшая, чым у сярэднім па раёне.



Мусіць, яшчэ хвілін пятнаццаць Мікіта сыпаў фактамі, даказваючы нядбайнасць старшыні і нарэшце ўнёс прапанову — вызваліць Міхася Хільмановіча ад пасады. Сход загудзеў, нібы пчаліны рой. Мікітава прапанова настолькі ўзбудзіла калгаснікаў, што толькі ўчастковаму ўдалося ўціхамірыць людзей, пасля чаго пачалося галасаванне. Вынік падліку галасоў быў не на карысць Міхася Хільмановіча.

А праз нейкую гадзіну новы і былы старшыні, разам з гасцямі з раёна, ужо сядзелі на беразе Зяльвянкі і кулялі чаркі хлебнай самагонкі, закусваючы апетытнымі шашлыкамі.

Калі ўсе добра падпілі і пад'елі, новаспечаны старшыня "Маяка камунізму" Іван Валковіч запытаў у Хільмановіча:

—Скажы, браце, што за чалавек гэты Рубель? Здатна ўмее гаварыць, ліха на яго.

Той імгненна адказаў свайму пераемніку:

—Будзеш мець з ім клопатаў. Гэта моцны арэшак. Рэжа праўду-матку ў вочы на любым мерапрыемстве, асабліва, калі побач высокае начальства прысутнічае. Так што падумай, як заткнуць яму рот.

Пасля гэтых слоў, як па камандзе, усе ўдзельнікі застолля пачалі выказваць парады, як змагацца з Мікітам Рублём. Новаму старшыні найлепш спадабалася парада шафёра старшынскага УАЗіка Сяргея, які цэлы дзень рыхтаваў яду і пітво, а зараз уважліва слухаючы прапановы нецвярозых мужыкоў, выказаў уласную думку:

—А вы, таварыш старшыня, вылучце гэтага Рубля ў праўленне калгаса. Пабачыце, спакой вам будзе забяспечаны.

Параду Сяргея падтрымалі і госці раёна:

—А што, Валковіч! Можа і зрабі гэтага Рубля праўленцам. Так Мікіта выбіўся ў начальства.

Непрыкметна праляцеў год. Надыйшоў час сабраць калгасны сход і падвесці вынікі працы гаспадаркі. На гэты раз у прэзідыуме за сталом важна сядзеў і Мікіта Рубель.

Варта было падчас абмеркавання справаздачы разгарэцца крытычным спрэчкам, як сур'ёзны Рубель устаў з-за стала і рэзка сказаў выступоўцу:

—Вы што сабе, таварыш Лягеза, дазваляеце? Хочаце ачарніць працу ўсяго калектыву? Не выйдзе! Калі няма канкрэтнай прапановы — сядайце!

Сход закончыўся ціха і мірна. Выходзячы з клуба, старшыня калгаса ўсміхнуўся і моцна пацісну руку свайму шафёру Сяргею.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# Хто яны, гэтыя людзі? Ахвяры, патрыёты, вязні?







Гэтыя здымкі, якія сёння мы змясцілі ў газеце, былі зроблены са шкляных негатываў, што знайшлі ў Быцені (Івацэвіцкі раён) падчас рамонту мясцовай бальніцы.

Высвятляецца, што сфатаграфаваў гэтых людзей нехта паляк Станіслаў Каласоўскі, які ў гады фашысцкай акупацыі ў Быцені меў сваю здымачную студыю. Паводле слоў жыхаркі Быценя Яўгеніі Рабавай, якая некалі працавала ў Каласоўскага, гэтыя здымкі сапраўды рабіў пан Станіслаў. Яна памятае, як асабіста мацавала на адзенне людзей шыльдачкі з напісанымі на іх нумарамі. Магчыма, казала яна, гэтыя здымкі рабіліся на аўсвайсы (нямецкія пашпарты). Яна мяркуе, што людзі на фота не з Быценя. Не выключана, што на картачках могуць быць жыхары з вёсак Слонімскага раёна: Сценявіч, Шылавіч, Русакова і іншых.

Мікалай РЫМАЧ, Івацэвічы

P.S. Магчыма, хто-небудзь са слонімцаў на апублікаваных фатаграфіях пазнае сваіх родных, сваякоў, а можа нават самога сябе; просьба паведаміць у рэдакцыю.















